# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 26 (696) 29 ЧЭРВЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

9-га чэрвеня пад кіраўніцтвам нядаўна новавыбранага старшыні Мікалая Гайдука адбылося першае пасяджэнне Прэзідыума Бельскага аддзела БГКТ. Галоўнымі тэмамі абмяркоўкі былі: узняццё на вышэйшы ўзровень дзейнасці Беларускага таварыства на Бельшчыне праз увядзенне новых цікавых форм працы, рост арганізацыі і аўтарытэт гурткоў. Многа было прысвечана часу на справы звязаныя з адзначэннем 25-ай гадавіны народнай улады ў Польшчы. Пастаноўлена, што аддзел арганізуе фестын у Малінніках прысвечаны гэтай знамянальнай гадавіне.

Прэзідыум аддзела прыдзяліў заданні ўсім членам праўлення. Гэтымі заданнямі з'яўляюцца: наведванне раз на квартал двух гурткоў БГКТ і дапамога ім у працы.

### ГРАМАДСКІ ЧЫН

Гурток БГКТ у Малінніках (старшыня гуртка Юрка Іванчук) супольна з гуртком Саюза вясковай моладзі (ЗМВ) 8-га чэрвеня арганізаваў грамадскі чын. Вяліся працы пры будове дарогі да чыгуначнага прыпынку ў Грыгараўцах. У гэтым чыне ўзяло ўдзел 35 асоб. Выканалі яны працы больш як на 4 тысячы зл. Члены гурткоў БГКТ і ЗМВ пастанавілі яшчэ некалькі разоў грамадска працаваць пры пабудове патрэбнай там дарогі. Моладзь Маліннік грамадскім дарожным чынам адзначае 25-ую гадавіну Народнай Польшчы.

### ПАДСУМАВАННЕ ПРАЦЫ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 13-га чэрвеня правёў супольнае пасяджэнне праўлення аддзела і рэвізійнай камісіі, на якім быў праведзены аналіз дзейнасці за другі квартал гэтага года. Старшыня аддзела Кастусь Масальскі расказаў прысутным, як выконваліся паасобныя пункты прынятага плана працы, як працавалі члены праўлення і інструктар аддзела. Пасля старшыні паасобных камісій (17 га красавіка былі пакліканы тры камісіі: 1) камісія прапаганды — старшыня — Уладзімір Навіцкі, 2) камісія культурна-асветная — старшыня — Ганна Амброжэй і 3) камісія супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі — старшыня — Васіль Літвінчук) склалі справаздачы за 2-месячны перыяд працы. Ніжэй падаем асноўныя мерапрыемствы арганізаваныя гэтымі камісіямі. І так, камісія прапаганды арганізавала першамайскую акадэмію і сустрэчу з кандыдатамі на радных (у ВРН — Янам Ясканісам і ў МРН — Леакадзіяй Зіневіч).

Камісія культурна-асветная арганізавала 2 танцавальныя безалкагольныя вечарыны для членаў і сімпатыкаў БГКТ, а таксама зрабіла захады адносна арганізавання харавога калектыву пры аддзеле.

Камісія супрацоўніцтва навязала кантакты з клубам Міжнароднай прэсы і кніжкі, а таксама з праўленнем Таварыства польска-савецкай дружбы.

Трэба сцвердзіць, што праўленне аддзела ў другім квартале працавала даволі добра.

Наступным пунктам пасяджэння было прыняццё плана працы на другое паўгоддзе. Калі разыходзіцца аб трэці квартал, дык да асноўных прац аддзела залічаецца адзначэнне 25-годдзя нашай Народнай дзяржавы. У сувязі са святкаваннем гэтай гадавіны будзе, між іншым, арганізавана ўрачыстая акадэмія, а таксама паездка актыву аддзела на экскурсію ў Белавежу. (мх)



Сцэна з гарадоцкага спектакля «Адвечная песня» па Янку Купалу. Здымак зроблены ў часе агляду калектываў нацыянальных меншасцей у тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку. Фота Цаф — Сянько

## НАСУСТРАЧ 25-ГОДДЗЮ




Недалёка ад граніцы,
Над Супрасляю ракой
Гарадок стары гадамі
Сеў, бы бусел, над вадой.
(З гарадоцкіх частушак)

Вядомыя саматужныя гарадоцкія частушкі, поўныя актуальнай жывой і народнай мудрасці. Знойдзе ў іх свой вобраз кожны радасны і сумны дзень жыцця вёскі ці гарадка (так і не ведаю, як лепш назваць Гарадок).

На хвалі ўздыму ўсяго 25-годдзя Гарадок крочыў праз гады ў славе культурнай ініцыятывы, працавітасці, бурлівага творчага неспакою тутэйшых людзей. Уласнымі дасціпнымі і задумёнымі частушкамі і песнямі нёс славу раздольнай Беластоцкай зямлі і свайго Гарадка — старога гадамі. Гарадоцкія жанчыны размаўлялі з міністрамі і прафесарамі. Дух маладосці і бадзёрасці яны раздавалі са сцэн многіх гарадоў краіны на чале з самай Варшавай.

Гарадок жыве працай гаспадароў і паўгаспадароў, рабочых і працаўнікоў гарадоцкіх устаноў. Звычайна рукамі і працай выкоўваўся тут вобраз 25-годдзя. Зараз Гарадок уваходзіць у новыя гады з новымі вялікімі планамі будоў, разбудоў і мадэрнізацый.

Але Гарадок менш днём штодзённым і працай мазолістай, а больш праслаівіўся песняй і сваімі жанчынамі. Нават больш жанчынамі, чым песняй, бо песню тут ствараюць і спяваюць жанчыны.

Даўней па хатах, а цяпер у доме культуры, пасля працы, познім вечарам «пакідаючы дзяцей і мужоў», збягаюцца на рэпетыцыі. Не толькі. Яны самі твораць праграмы.

**Ніна Цыванюк** на VI з'ездзе БГКТ знервавалася нараканнямі, што «няма рэпертуару для самадзейных гурткоў». Знерваваўшыся, выйшла на трыбуну і сказала «прыедзьце да нас, мы вам дамо рэпертуару, колькі захочаце!»

Параскіданыя па сшытках частушкі і песні гарадоцкія можна б сабраць і выдаць, то праўда. А паўстаюць жа ізноў у Гарадку новыя.

Гаварылі мы пра культурную дзейнасць у Гарадку. **Мікалай Матэйчык** кіраўнік дома культуры імя Кастуся Каліноўскага нават злаваў, што шукаю толькі пахвал Гарадка, калі тут ідзе цяжкая і ахвярная праца, і не заўсёды ўсё ўдаецца, і дапамогі фахавай мала, альбо зусім няма. Што ж, калі «не для сябе, але для ўсіх разам, для Гарадка хочацца нешта рабіць, што не ўседзіць чалавек, а ўсё думае, чагось хоча», — кажа **Ніна Мушынская,** якая разам з **Надзяй Парэмбскай, Ольгай Нядзведзеў, Любай Северын, Нінай Грэсь, Ленай Кот, Нінай Цыванюк, Сашай Яроцкай** былі закваскай, дражджамі, ці як цяпер па-чужаземнаму гаворыцца, ферментам культурна-грамадскага руху ў Гарадку. Пачыналі і дзейнічалі на пераломе 50-тых гадоў, а нават раней.

Вырасла ў Гарадку цяпер вялікая і свежая група маладых дзяўчат. Стройных і здольных. Спалучэнне іх са старэйшымі (не ўзростам, а вопытам) дало ў Гарадку свайго роду выбух, адраджэнне: песні, актыўнасці, ініцыятывы, руху, думак, спрэчак, згуртаванай працы доўга ўноч, калі трэба самім зрабіць і ўборы, і дэкарацыі, і ўсё-ўсё іншае.

Ясна, чужы бачыць толькі эфект, бляск, радасць, калі ва ўсёй красе Гарадок выступіць, заспявае, прадэкламуе (прыпамінаю дасканала па-мастацку зробленую сцэну размовы-дуэта Маці (Ніна Цыванюк) з сынам Пастушком (Тамара Кандрусік) у «Адвечнай песні», стаўленай Гарадком на фестывалю калектываў нацыянальных меншасцей у Беластоку).

Таксама ясна кожнаму, што з нічога

Працяг на стар. 4

## VI З'ЕЗД БГКТ

## ПРЫВІТАННЕ АД ЛІТОЎЦАЎ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ СТАРШЫНІ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ ЛГКТ АЛЬГЕРДА СКРЫПКІ)**

Драугус драўгай — дарагія таварышы, паважаныя дэлегаты.

Слухаючы справаздачны даклад і дыскусію на вашым з'ездзе, я ясна ўяўляю сабе веліч працы вашага асветнага культурнага і грамадска-палітычнага актызу, яго высакароднае прызванне для поўнага ўключэння беларускай грамадскасці ў ажыццяўленні агульнанародных задач і адначасова да больш поўнага эканамічнага і культурнага развіцця беларускага асяроддзя ў Польшчы.

Літоўская нацыянальная меншасць з вялікай сімпатыяй сочыць за развіццём Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Я з вялікай прыемнасцю сцвярджаю, што супрацоўніцтва нашых таварыстваў плённа развівалася ад самага пачатку, ад моманту заснавання нашых арганізацый.

Некалькі год таму назад мы правялі незабыўны, які запісаўся поспехамі, культурны абмен, у якім прынялі ўдзел вашы і нашы мастацкія калектывы. Па сённяшні дзень людзі з Сейненшчыны памятаюць прыгожыя і вясёлыя твары членаў эстраднай групы «Лявоніхі». У сваю чаргу члены нашых мастацкіх калектываў не забылі гасціннасці і сардэчнасці, з якімі сустракаліся выступаючы ў асяроддзях, дзе жывуць беларусы.

Гэтага роду культурны абмен стварае дасканалую нагоду, каб сустрэцца з беларускім асяроддзем. Ён нам паказаў вялікую сардэчнасць гэтага асяроддзя і выявіў глыбокае разуменне літоўскай культуры ў скромным выкананні нашых калектываў. Мы б хацелі, каб яшчэ ў гэтым годзе прыняць у сябе на Сейненшчыне ў гасцях нашых беларускіх сяброў, мы чакаем вас, вы будзеце нашымі дарагімі госцьмі.



Фота Цаф — Сянько

Дазвольце, дарагія браты-беларусы, перадаць вам самыя сардэчныя прывітанні ад літоўцаў — з краіны цудоўных азёраў, з прыгожай Сейненскай зямлі. Нас, літоўцаў, лічыце вы сваімі шчырымі сябрамі.

## БОЛЬШ БЫ МОЛАДЗІ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА ГАЙНАЎСКАГА АДДЗЕЛА — ЯНКІ ЦЯЛУШЭЦКАГА)**

Таварышы дэлегаты! На аснове ўласнага вопыту магу сказаць, што гурткі БГКТ на Гайнаўшчыне дзейнічаюць даволі актыўна. Прышлося вось мне асабіста пабываць у нейкіх дзесяці гуртках. Таму больш-менш арыентуюся ў іх справах. Зараз у гуртках усё менш моладзі. Не таму, што маладыя людзі

Працяг на стар. 4




# СВЕТ

## РЭАЛІЗМ І АПТЫМІЗМ

Закончылася Міжнародная нарада камуністычных і рабочых партый у Маскве. У буржуазнай прапагандзе як бы штосьці заела. Праз даўжэйшы час, а перш за ўсё ў час папярэджваючы Міжнародную нараду ў Маскве і ў першых днях нарады, уся прапаганда працавала на найвялікцых абаротах пераконваючы толькі адно: рознагалоссі ў міжнародным камуністычным і рабочым руху. Спекуляцыі на тэму: у які момант наступіць адкрыты раскол, у якой справе і якія партыі пакінуць нараду так засляпілі буржуазным каментатарам рэчаіснасць, што не прыкмецілі яны ні зместу ні духу дыскусіі і супольна выпрацаванай праграмы. Калі ўрэшце ўбачылі вынікі нарады, вымушаны былі змоўкнуць таму, што нават так эластычнаму апарату буржуазнай ідэалагічнай дыверсіі не пад сілу змяняць фронт на 180 градусаў з гадзіны на гадзіну, цяжка з дня на дзень пераконваць свайго адбіральніка, што ў Маскве стаўся цуд.

У Маскве не было цуду. Проста імперыялізм пералічыўся ў сваіх падліках беручы ўласныя пабожныя пажаданні за рэчаіснасць. Таму не бачылі, што сярод большасці сацыялістычных краін і большасці кампартый развіваўся працэс умацавання адзінства. Вынікам гэтага з'яўляецца дакумент нарады, які навукова аналізуе асноўныя праблемы і з'явы сучаснага свету, накрэслівае кірункі дзеяння. Яго асноўнай думкай ёсць тэзіс, што імперыялізм ужо не ў сілах вярнуць патрачаную гістарычную ініцыятыву. Асноўную дарогу развіцця чалавецтва вызначае сацыялізм, міжнародны рабочы клас, усе рэвалюцыйныя сілы. Гэта не толькі чыста тэарэтычная ацэнка. Выплывае яна з аналізу вопыту мінулых год, у часе якіх жыццё і практыка праверылі слушнасць стратэгічных канцэпцый барацьбы за сацыялізм, нацыянальнае вызваленне і мір, пацвярджаючы іх слушнасць. Зразумела, у часе мінулых 9 год, якія раздзялялі нас ад папярэдняй нарады, нарадзіліся новыя міжнародныя праблемы, новыя палітычныя з'явы, якія патрабавалі ацэнкі, свайго пункту гледжання, вызначыць супольнае дзеянне.

Дакумент нарады гаворыць, што адной з вельмі важных задач камуністычных і рабочых партый сацыялістычных краін з'яўляецца развіванне ўсебаковага супрацоўніцтва гэтых краін і запэўненне новых поспехаў у асноўных напрамках гаспадарчага спаборніцтва і ў галіне навукі і тэхнікі. Ва ўмовах завастрэння барацьбы між дзвюма сістэмамі гэтае спаборніцтва патрабуе, каб сацыялістычная сістэма ўсё больш абапіралася на міжнародным сацыялістычным размеркаванні працы і добраахвотнай каапераціі, выключаючы памяншэнне нацыянальных інтарэсаў.

Калі паміж сацыялістычнымі краінамі паўстаюць такія ці іншыя рознагалоссі, якія вынікаюць з розніц ва ўзроўню іх гаспадарчага развіцця, грамадскай структуры, міжнароднай сітуацыі, такія рознагалоссі трэба развязваць дарогай дыскусіі і супрацоўніцтва, —сцвярджае дакумент нарады.

А. К.

# БССР

## ВЯРХОЎНАГА

Адбылася шостая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, прысвечаная гаспадарчым і грамадскім справам.

З дакладам аб стане і мерах па далейшаму паляпшэнню меліярацыйных работ і выкарыстання асушаных зямель у рэспубліцы выступіў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Лабанок. Пасля спрэчак па дакладу ўхвалена адпаведную пастанову, з якой вынікае, што далейшае развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці ў рэспубліцы звязана з паспяховым ажыццяўленнем шырокай праграмы па меліярацыі зямель. За мінулыя тры гады меліярацыйныя арганізацыі рэспублікі ўвялі ў сельскагаспадарчы абарот дадаткова каля 400 тысяч гектараў новых асушаных зямель.

На сесіі прынята «Кодэкс аб шлюбе і сям'і Беларускай ССР». З мэтай аховы маці і дзіцяці ўстаноўлена правіла, згодна з якім муж не можа без згоды жонкі ўзбуджаць справу аб скасаванні шлюбу ў час цяжарнасці жонкі і на працягу аднаго года пасля нараджэння дзіцяці. Развод можа адбыцца не раней як цераз тры месяцы пасля падачы заявы аб разводзе. Шлюбы будуць давацца не раней, як праз месяц пасля падачы заявы аб шлюбе. Аліменты жонцы або мужу могуць быць устрыманы ў выпадку ганебных паводзін аднаго з іх. Прызнанне бацькоўства паўналетніх дзяцей можа адбыцца толькі пры згодзе тых жа дзяцей. Дзеці, выхаваннем якіх бацькі не займаліся, маюць права адмовіцца ад утрымоўвання іх.

Гэтых некалькі падрабязнасцей з «Кодэкса» сведчаць аб павышэнні дбайнасці над умацаваннем сям'і, ліквідацыі існуючых несправядлівасцей.

## МАП

Беларускія газеты паведамляюць аб актыўным удзеле дэлегацыі Беларускай ССР у сесіі генеральнай канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) у Жэневе. Выступаючы на сесіі, дырэктар Беларускага аўтамабілевага завода І. Сідаровіч адзначыў, што праз паўстагоддзя пасля стварэння МАП беспрацоўе і забеспячэнне занятасці застаюцца вострымі праблемамі сучаснасці.

## КАЛІНОЎСКАГА

У Свіслацкім раёне існуе калгас імя Кастуся Каліноўскага. Вёска Ліхасельцы, недалёка ад якой правёў сваё дзяцінства змагар беларускага народа, сёлета перайменавана на вёску Каліноўскае. Вырашана стварыць тут мемарыяльны музей легендарнага Кастуся, пачаўся збор экспанатаў.

## АРХІТЭКТАРАЎ

У Мінску адбыўся семінар архітэктараў з розных гарадоў Саюза ССР. Праблема семінара — «Архітэктура сельскіх населеных месц».

Удзельнікі семінара выязджалі ў вёскі Брэсцкай і Гродзенскай абласцей.

## АСІЛКІ

Чатыры медалі заваявалі спартсмены Беларусі на чэмпіянаце Саюза ССР па вольнай барацьбе, які адбыўся ў Мінскім Палацы спорту. Такога поспеху беларускія асілкі яшчэ ніколі не дабіваліся.

Бесканкурэнцыйным вядома быў Аляксандр Мядзведзь, чэмпіён свету і Алімпіяды, адна з зорак беларускага спорту.

(С.Я.)

# ПОЛЬШЧА

## ЗАДАННІ ПРАФСАЮЗАЎ

19 чэрвеня адбылося XII пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў. Тэмай пасяджэння была справаздача з рэалізацыі пастановы V кангрэса і напрамкі дзейнасці прафсаюзаў на бліжэйшыя 2 гады. З уступным дакладам выступіў старшыня Цэнтральнай рады прафсаюзаў Ігнацы Лёга-Савінскі. Прамоўца напомніў, што асноўным заданнем прафсаюзаў і рабочага самакіравання з'яўляецца грамадскае дзеянне для пабольшання нацыянальнага даходу — адзінай крыніцы пабольшання дабрабыту ўсяго народа. Прамоўца падкрэсліў, што хаця гаспадарка наша развівалася ў даволі хуткім тэмпе, то аднак у параўнанні з іншымі сацыялістычнымі краінамі займаем адно з далейшых месц — асабліва ў пераліку нацыянальнага даходу на аднаго жыхара краіны. Гаворачы аб заданнях прафсаюзаў на бліжэйшы перыяд тав. Ігнацы Лёга-Савінскі сканцэнтраваўся перш за ўсё на рэалізацыі пастаноў II пленума партыі. Новы падыход да праблем эканамічнага развіцця павінен глыбока пранікнуць да свядомасці рабочых калектываў і рабочага самакіравання. Новая сістэма апрацоўкі гаспадарчага плана «знізу» павышае ранг і прафсаюзаў у гаспадарчай сістэме краіны, а таксама ранг і значэнне рабочага самакіравання.

## ЛАСЕР

Вучоныя Вайскова-тэхнічнай акадэміі пабудавалі прыбор, які дазваляе на аперацыю жывых арганізмаў вострым струменем святла (гэтак званы ласер).

## ЗАРАБОТКІ

Банк інфармуе, што выплаты з фонду заработкаў у месяцы маі ўзрасталі значна хутчэй чымсьці ў папярэдніх месяцах. Звязана гэта з аднаго боку з узростам прадукцыі, а з другога — з узростам тэмпу пабольшвання колькасці рабочых.

## СКАРБ

У час будаўляных работ у Плоньску знойдзена скарб, які складаецца з 2830 манет. Звяртаецца ўвагу на факт, што няма сярод іх аніводнай польскай манеты. Скарб з'яўляецца тэўтонскага паходжання. Прадаўжаюцца даследванні, чыёю ён быў уласнасцю.

## СЕЛЯДЦЫ

Селядцы патанелі. Пабольшанне лоўлі на Балтыйскім моры дазволіла знізіць цану гэтай рыбы на 4 злотых за кілаграм.

## ВІЗІТ

I намеснік старшыні камітэта супрацоўніцтва з замежнымі краінамі пры Радзе Міністраў К. Альшэўскі прыняў пасла Злучаных Штатаў у Польшчы В. Стэселя. Абмеркавана справы звязаныя з паглыбленнем гаспадарчага супрацоўніцтва і навукова-тэхнічнага абмену паміж абедзвюма краінамі. (п)

# ВАЯВОДСТВА

## КАНІКУЛЫ

У суботу 21 чэрвеня ў пачатковых і сярэдніх школах адбыліся ўрачыстасці з нагоды заканчэння школьнага года. 277 тысяч вучняў з Беластоцкага ваяводства пачало канікулы. Многія сярод іх правядуць лета ў гарцэрскіх лагерах і на вучнёўскіх «калёніях».

## СТУДЭНТЫ ДЗЯРЖАВЕ

500 студэнтаў вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку абавязаліся правесці канікулы ў гуфцах працы. Між іншым будуць яны працаваць у надлясніцтвах Белавежа, Лясная, Голдап і Чорны Двор.

## СЦЯГ ШКОЛЕ

Вучні пачатковай школы ў Кальніцы (Бельскі павет) атрымалі ад сваіх бацькоў і мясцовых грамадскіх арганізацый школьны сцяг. З гэтай нагоды вучні з Кальніцы пакляліся на свой сцяг, што будуць добра вучыцца, што будуць шанаваць сваю айчыну — Польскую Народную Рэспубліку. У гэтым навучальным годзе кальніцкую школу пакінула 18 выпускнікоў, якія закончылі там 8 клас.

## СУСЕДСКІ ВІЗІТ

Нядаўна пабывалі на Беласточчыне госці з Гродзеншчыны. Была гэта сельскагаспадарчая дэлегацыя, якую ўзначальваў кіраўнік сельскагаспадарчага аддзела абкома КПБ у Гродне, тав. Уладзімір Рэпкін. Перш за ўсё цікавіліся яны праблемамі меліярацыі і прамысловымі метадамі сушэння сена.

## З'ЕЗД СПУЛДЗЕЛЬЦАЎ

У Аўгустове адбыўся IX-ты з'езд дэлегатаў Ваяводскага саюза спулдзельняў працы Беластоцкага ваяводства. Прынялі ў ім удзел: старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку С. Жмійка і кіраўнік эканамічнага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП — М. Нядзьведзь. З дакладам аб дасягненнях спулдзельняў працы ў 1967—1968 гадах і аб заданнях на будучыню выступіў старшыня Ваяводскага саюза Уладзімір Пугаўка.

## КОНКУРС

Ваяводскія праўленні маладзёжных арганізацый аб'явілі конкурс пад лозунгам: «Вясковая моладзь Беласточчыны будуе і рамантуе дарогі». Удзел у конкурсе прыняло ўжо 43 гурткі Беластоцкага павета. Моладзь з вёскі Студзянкі за адзін дзень вырамантавала дарогу ў сваёй вёсцы. Грамадскім чынам пры пабудове дарогі працавала таксама моладзь з вёскі Скрабляхі.

## ПАЖАРНІКІ САМАДЗЕЙНІКІ

На Беласточчыне дзейнічае зараз 60 аматарскіх тэатральных калектываў, якія згуртоўваюць 480 пажарнікаў. У мінулым годзе гэтыя калектывы выступілі са сваімі п'есамі аж 110 разоў.

## НОВЫ ЗАВОД

Нядаўна пачаў у Беластоку працу новы завод — Прадпрыемства кафлярскай палівы. Гэта супернавейшы завод. Будзе ён выпускаць у год звыш 1000 тон кафлярскай палівы. (вр)




**Niedziela, 29.VI.**

8.55 Program dnia. 9.00 „Przypominamy, radzimy". 9.20 „Wiem kim jesteś" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.25 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1940". 11.00 Doroczne sportowe zawody telewizyjne wielkich zakładów pracy o Puchar CRZZ. 13.00 Dziennik. 13.15 „Przemiany". 13.45 „Gawędy wilków morskich". 14.00 „Toto, Peppino i bandyci" — film fab. wł. 15.40 „Polska leży nad Bałtykiem" — teleturniej. 16.40 „Ojciec i syn" — film (odc. III). 17.10 „Klub Sześciu Kontynentów". 17.50 Estrada Literacka: J. Tuwim — „Kwiaty polskie". 18.35 „Morska dynastia" — film TVP. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 „Trzy podróże" — nowela filmowa franc. 20.30 VII Festiwal Poskiej Piosenki w Opolu. „Mikrofon i Ekran" — koncert laureatów. W przerwie ok. 21.15 PKF i Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 30.VI.**

16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 „Opowieści ze świata zwierząt" — film. 17.10 „Echo stadionu". 17.35 „Opowieść o Międzyrzeckim Zamku" — film oświat. 17.55 „Magazyn Postępu Technicznego". 18.20 „Sylwetki X Muzy" — Paul Newmann. 18.45 „Szlakiem Wielkich Przemian" — „Szlachetny gość" — rep. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: W. Szekspir — „Makbet". 21.55 „Prawdziwi władcy Republiki Federalnej". 22.20 Dziennik.

**Wtorek, 1.VII.**

10.00 „Śmierć biurokraty" — film fab. kub. 11.20 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Miasto — muzeum" — film dok. radz. 17.15 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.50 „Bryza". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 „Wystawa 25-lecia PRL" — rep. z Moskwy. 20.40 „Śmierć biurokraty" — film fab. kub. 22.00 Dziennik. 22.15 „Literatura polska w świecie" („Przez granice i kontynenty").

**Środa, 2.VII.**

8.15 i 9.05 „Matematyka w szkole". 10.00 Film („Ścigany"). 10.45 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie". 18.30 PKF. 18.40 „Magazyn ITP". 18.50 TV Kurier Warszawski. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Film („Ścigany"). 20.55 „Światowid". 21.25 „Polscy artyści wykonawcy". 21.55 Dziennik. 22.10 Studio Współczesne: K. Choiński — „Nocna opowieść". 23.20 Wiadomości i sprawozdanie sportowe.

**Czwartek, 3.VII.**

15.00 i 15.45 Matematyka w szkole. 16.30 Program dnia. 16.35 „Przypominamy, radzimy". 16.40 Dziennik. 16.50 „Nie tylko dla pań". 17.10 „Opowieść o Arktyce" — film dok. TV radz. 17.50 „Soliści polskiego baletu" — II program („Najpiękniejsza jest muzyka polska"). 18.20 „Pasterska trąbka" — film CSRS. 18.45 Szlakiem Wielkich Przemian": „Proces Optimum" — rep. z Tarnowa. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Poszukiwacze skarbów" 20.35 „Zemsta kobiety" — film fab. ang. 22.05 Magazyn Medyczny. 22.35 Dziennik.

**Piątek, 4.VII.**

10.00 Historia współczesna" — film fab. pol. 11.35 Przerwa. 15.45 Program dnia. 15.50 Dziennik. 16.00 „Teleferie". 17.30 „Rytmy roku" — program rozrywkowy (Kijów, Tbilisi). 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Definicje" — teleturniej. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 „Mężowie w mieście" — film fab. wł. 21.45 Wszechnica TV. 22.15 Dziennik.

**Sobota, 5.VII.**

10.00 „Siedmiu samurajów" — film fab. jap. 12.35 Przerwa. 15.50 Program dnia. 15.55 Program tygodnia. 16.20 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1943". 16.50 Dziennik. 17.00 „Spotkania z przyrodą". 17.15 „Letnie zabawy" — program estradowy. 18.25 „Pegaz". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 Kino Interesujących Filmów: „Siedem samurajów" — film fab. jap. 22.45 Dziennik i Wiadomości sportowe.




**Piątek, 27 czerwca**

8.00 Nowiny. 8.15 „Cuda przyrody". 8.30 „Wesołe miasteczko". 9.00 Dla dzieci. 11.45 Program dnia. 15.00 Koncert symfoniczny. 15.35 Nowiny. 15.45 Dla uczniów. 16.10 „Panorama nowin". 16.25 „Co czytają nasze dzieci?". 16.45 Film TV. 17.30 Mecz piłkarski o puchar ZSRR. 19.15 „Sztafeta nowin". 20.00 „Ogień". Film TV. IV seria. 21.00 „Turniej dociekliwych". 21.40 Reportaż z międzynarodowych zawodów samochodowych. 22.00 „Tylko fakty".

**Sobota, 28 czerwca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Historia, której mogło nie być". 8.45 „O koźle". Film animowany dla dzieci. 9.00 Przegląd międzynarodowy. 9.20 „Szkatułka muzyczna". 9.30 Spektakl teatralny. 12.30 Spotkanie słynnych dowódców brygad partyzanckich. 13.30 TV barwna. 15.00 „Powiew wieku". 15.30 „Operacja „Bargration". 16.00 TV barwna. 19.15 „Świat socjalizmu". 19.45 „Kurier wiejski". 20.10 „Życiorys mojej republiki". 21.00 Koncert estradowy. 22.00 „Tylko fakty".

**Niedziela, 29 czerwca**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 Koncert artystów Leningradzkiego teatru lalek. 9.00 Spartakiada traktorowych gigantów. 10.00 Dla uczniów. 10.25 Koncert życzeń. 11.00 „Godzina wiejska". 12.00 Dla żołnierzy. 12.30 TV barwna. 14.00 Bal maturalny. 15.00 „Czas". 15.30 TV barwna. 16.30 W eterze „Młodość". 17.15 „Panorama nowin". 17.30 Spotkanie uczestników Wielkiej Wojny Ojczyźnianej. 18.15 „Europa: wydarzenia, kraje, problemy". 19.00 TV film dokument. 20.00 Festiwal piosenki estradowej „Złoty Orfeusz".

 

Пачатак на стар. 1




і выйдзе нічога. Калі Гарадок усё ж мае дасягненні, то здабывае іх сапраўднай працай. Увесь сэнс і смак грамадскай дзейнасці ў гэтым і заключаецца. А гарадоцкія людзі сваю энергію ўмелі накіраваць у адпаведнае русла і даць прыклад добрай работы.

Спяваецца ў адной гарадоцкай частушцы «Гарадок традыц'ю мае» і нягледзячы на ўпадкі, без якіх ані руш там, дзе што-небудзь робіцца, добрая традыцыя культурнага руху ў Гарадку жыла і ажыла з новай сілай.

Гарадок прымае ўдзел ва ўсіх культурных мерапрыемствах, як для прыкладу: конкурс на савецкую песню, конкурс на патрыятычную песню. Даў Гарадок дасканалую праграму на раённым з'ездзе былых КПЗБ-оўцаў у Гарадку. Усюды здабывае зелізарнае прызнанне і лепшыя месцы. Гэта таксама ўвайшло ў гарадоцкую традыцыю.

Расказвалі мне ў Гарадку, як дайшло да пастаноўкі «Адвечнай песні». Запыталі сябе яны, што зробім? Няхай кожны думае, дае прапановы (супольныя рашэнні таксама належаць да гарадоцкай традыцыі).

Сабраліся ўвечары на другі дзень у доме культуры. Многія прызналіся, што ночы не спалі і не надта ведаюць, што і як рабіць. А потым прыпомнілася ім паэма Янкі Купалы «Адвечная песня». Прабавалі ж яе ставіць ужо, вельмі вузка штоправўда. Чаму ж бы не сягнуць па яе? Разбудаваць акцыю, зрабіць поўны жывы спектакль! Так і зрабілі.

А цяпер снуюцца думкі кожнай вольнай хвілінай, нават цяпер, як сядзім пры круглым стале ў гаспадарнай па-беларуску чыстай хаце Ніны Мушынскай. Думкі снуюцца, як на новы лад перабудаваць «Адвечную песню».

І прапановы: у заканчэнні даць вяселле і спяваць многа і весела, спяваць доўга, як найбольш сваіх уласных песень, увесці танцы, каб усё разам кружылася і радавалася, кружылася і радавалася.

Сцяпан Капа, малады задумённы настаўнік вядзе гарадоцкі хор. У песні кахае яе чароўную меладыйную прыгажосць, яе маестат. Выдаецца аднак, што не варта, каб загінула дасканалая традыцыя Гарадка з яго саматужнымі частушкамі, з яго бурлівасцю, з яго ўмеласцю лавіць лятучы час і пераказваць хвіліны смутку і пераможную радасць жыцця.

**Вера Леўчук**

# Малінніканскія „няўдачы"

Прыглядзеўшыся да спраў вёскі Малліннікі можна падумаць, што гэту мясціну мучыць нейкі няўдачлівы лёс. Першае ўражанне такое, што ў мясцовых людзей работа не гарыць у руках, а нават выпадае з рук. Ці праўда гэта?

Даўным-даўно павятовыя ўлады задумалі зафундаваць Маліннікам новенькую краму, бо тая, што ёсць, малая яна, цесная, задрыпаная. У звычайнай хаце. Здавалася б, лёс усміхнуўся і здорыць вёску не абы-якім прыбыткам! Ды дзе там, аказалася, краме патрэбен пляц і аб гэты пляц, як калена аб камень, разбілася цэлае шчасце... Краму пабудавана за павятовыя грошы ў суседняй Вольцы Выганоўскай. Па сённяшні дзень маліннікаўскія гаспадары, калі праязджаюць цераз Вольку, паказваюць там на беласценны будынак і кажуць: «Наша крама! Ой, гожая!!»

А крыху пазней — ці мо раней — бо чатыры або пяць гадоў таму назад дружныя наогул маліннікаўскія людзі задумалі пабудаваць сабе святліцу. Добрая справа! Задумалі і ўзяліся за работу, чаго дарэмна языкамі трапаць. Накупілі цэменту (а тады купіць цэмент не было лёгкай справай), навазілі дзве гурбы жвіру; не гурбы, проста, гурбішчы! Будзь здароў — роўныя з чалавекам, такія вялікія!

Нарабілі пустакаў, беражліва расклалі іх у тры гурбы, каб мацаты набіралі і зручней паліваць іх вадою. Усе памятаюць, што было менавіта тры гурбы пустакаў, прыгожых пустакаў, глянуць міла... Не прамінула і паўгода, калі адна гурба прапала, знікла, высахла. А то што за агні!? Потым і другая гурба паменшала, як бы асела і ўканцы зусім прапала таксама... І трэцяя!! Усе. Казалі людзі: хтосьці пабудаваў сабе зграбны хлявок, цёпленькі, пустакавы. Хтосьці пабудаваў сабе куратнік, цёпленькі, зграбненькі... Хтосьці яшчэ штосьці пабудаваў, і яшчэ.

Так і не дайшло да хрышчэння святліцы.

Таемныя сілы аблюбавалі сабе Малліннікі, загняздзіліся. Добра ім. Вось, нядаўна, кажуць, пісала газета, што ў Маліннікаx кіёск спажывецкі паявіўся. Кіёск — і да таго спажывецкі. Сёй-той агледзеўся паабапал вуліцы. Не, няма ніякага кіёску, газета хіба здурэла? Калі сёй-той паверыў газеце і бы добры дурань пачаў разглядацца, дык толькі таму, што такі кіёск сапраўды меў быць, мо нават і будзе, мо і ёсць ужо... Спецыяльна прызначаны Маліннікам. Пару год стаяў, эх, гніў кіёск той у Орлі, адкуль абяцала ўзяць яго маліннiцкае начальства. На той кіёск браліся некаторыя скласці песню-частушку пад запеў «Ты мяне падманула, ты мяне падвяла»... Не дзіва, што знайшліся ў вёсцы кампазітары, калі знайшліся нат эканамісты, якія пачалі развіваць тэорыю аб будучай канкурэнцыі паміж крамай і кіёскам: хто лепей абслужыць кліента, той абарот большы мець будзе. Эканамісты бавяцца ва ўтапійныя тэорыі, бо такой канкурэнцыі, відаць, не будзе і не бываць ёй! — А, хай яго... — сказаў солтыс людзям і замахаў рукамі ад таемнай згрызоты. Усе разышліся па хатах сваіх так і не расталкаваўшы наконт таго, каб скласціся па 2 залатоўкі на аплату самаходнай «вывроткі», якая мелася даставіць жвіру пад фундамент, запланаваны як грамадскі чын і пад той жа кіёск. Хутка забыліся аб тым, бо новыя турботы нахлынулі на тую ж вёску Маліннікі, што ў Бельскім павеце, на самай ускраіне яго. Бачыце, пайшлі чуткі, быццам пункт аховы здароўя задумаў перавандраваць у Дубяжына, вядома, з Маліннікаў у Дубяжына. Каб Дубяжын быў вярсту адсюль, хай вандраваў бы... Сем ці восем кіламетраў да Дубяжына, ого! Не пусцілі «пункта» туды, але няшмат зваявалі і ў гэтай справе сваёй маліннікаўскай: пункт аховы здароўя будзе размешчаны ў суседніх Грыгораўцах. Праўда, да Грыгораўцаў напалову менш дарогі, мо і ўтрая менш — прытым, там, у Грыгораўцах, гміннай вёсцы, няма адпаведнага будынка. Будынак будзе там, пабудуюць яго, хай будуюць. Пакуль збудуюць, не адна рэчка на свеце высахне — і ў тым выйгрыш усё такі Маліннікаў. Пэўна, да пары, да часу...

Затое маліннікаўская моладзь, зрэшты як кожная моладзь, не можа спакойна глядзець на тое, як яе дарослым апекунам «усё рыба»! Перш за ўсё аб'ядналася яна, моладзь, ствараючы нешта накшталт гуртка БГКТ — ЗМВ. Словам, абедзве арганізацыі вырашылі дзейнічаць супольна. Падумалі аб умацаванні работы тэатральнага гуртка; няма святліцы, але ёсць школа — мураваная, вялікая. Ну, а танцы дзе будуць? Патрэбна хаця б пляцоўка. А, хто дасць дошкі на пляцоўку? Патрэбна заслужыць на тое. Як заслужыць? Ясна, працаю і добрай воляй на карысць агульную. У нядзелю выйшлі будаваць дарогу, дакладней кажучы, ладзіць яе. Дарогу з Маліннікаў у Грыгораўцы. Шмат работы на разбітай ды запушчанай дарозе. Працавалі дружна амаль дзень цэлы і вырашылі яшчэ працаваць, і яшчэ. За такую ахвярнасць грамадская рада не павінна мець цвёрдага сэрца да маладзёжных спраў. Ахвярнасць гароўная, вясёлая, здаровая. Так яно павінна быць.

Першая ўдача ў Маліннікаx апошняга часу. Гэту ўдачу весела адсвяткавалі танцамі на панадворку актывіста БГКТ, іграў актывіст ЗМВ.

Спявалі.

Да гуртка БГКТ і ЗМВ належаць усе. Пытаў я хто не належыць яшчэ? Не ўмелі назваць мне такога. Здаецца, хтосьці яшчэ не належыць... Гэта так неістотнае ўжо, што аж радаснае.

**Кастусь Янкоўскі**

# Kontrasty

Паявіўся ў кіёсках чарговы, чэрвеньскі нумар беластоцкага месячніка «Кантрасты». Змест, які прыносіць ён на 40 старонках друку, як заўсёды багаты, разнастайны і цікавы. У нашым кароткім аглядзе вымушаны мы абмежавацца толькі да некаторых артыкулаў і фельетонаў. Вельмі цікавы расказ Эдварда Радлінскага «Скарпа». Ён перапоўнены сонцам і паэзіяй вясковых лугоў, паказвае імкненні сялянскіх юнакоў да лепшага, прыгожага.

Варта прачытаць артыкул Ежы Віснеўскага аб гісторыі і ўстанаўленні межаў Падляшша. Піша ён «Сярод літоўскіхураднікаў, якія гаварылі і пісалі па-руску, узнікла назва для акрэслення зямлі, уключанай у межы Троцкага ваяводства. Назва гэтая несумненна абазначае зямлю «Пад ляхамі», таму што распасціралася яна ўздоўж мяжы з ляхамі». Адтуль назва: Падляшша, што значыць: «ля ляхаў, побач з ляхамі».

Цікавы артыкулы: Дануты Яскані пра сляды культуры даўніх жыхароў Беласточчыны і пра легенды, якія ўвекавечваюць гэтую даўнасць; Барыса Нікіцюка пра слаўнага нашага земляка Пятра Баровіча, які быў салдатам Кастрычніцкай рэвалюцыі і артыкул Генрыка Падляскага з цыкла слазутых крымінальных спраў пра тое, як беластоцкі фабрыкант Бэкер ашукаў царскіх ураднікаў.

Знойдзем у «Кантрастах» артыкулы аб ролі беластоцкага філіялу Варшаўскага ўніверсітэта, аб дасягненнях і значэнні супрасльскага ліцэя мастацкіх тэхнік, аб ролі і дзейнасці рэгіянальных, мясцовых таварыстваў — прыхільнікаў розных куткоў Беласточчыны, аб сувязях вялікага польскага паэта І. Красіцкага з Беластокам, аб пераменах у дайлідскай фабрыцы дыкты і многа іншых. (вр)



Што лета, што цяпло, што сорам? Мне — не, бо я хвора і еду да доктара.

Фота Цаф — Сянько

Пачатак на стар. 1

# БОЛЬШ БЫ МОЛАДЗІ

не хочуць уступаць у члены БГКТ, але перш за ўсё таму, што ўвогуле мала моладзі астаецца цяпер у вёсках. Дык нашы гурткі ўсё «старэюць». У Гайнаўскім павеце дзейнічае цяпер 70 гурткоў БГКТ. Гэта даволі многа. Але нельга гэтага разумець, што ўжо дастаткова. Неабходна арганізаваць новыя гурткі і прыцягваць да іх перш за ўсё моладзь — тую моладзь, якая належыць ужо да ЗМВ ці іншых арганізацый. Гэта адно другому не перашкаджае. З моладдзю можна працаваць і трэба працаваць. Неабходна аднак, каб быў чалавек, добры арганізатар, які пакіраваў бы гэтай працай.

І тут выступаюць цяжкасці. Інструктар Галоўнага праўлення на Гайнаўскі павет мае толькі паўштатную зарплату. Другую палавіну штата прыдзелена кіраўніку хору, які прыходзіць раз у тыдзень і вядзе гэты хор. Не ведаю чаму так раздзялілі гэты штат, але выдаецца мне, што гэта крыўдна. Найлепш было б, калі б Галоўнае праўленне прыдзяліла для Гайнаўскага павета паўнаштатнага працаўніка па культурна-асветных справах. Тады можна было б гаварыць аб нейкім уздыме працы і актыўнай дзейнасці.

Справа фільмаў. Савецкія фільмы тут у Беластоку высвятляюцца ў суботу і ў нядзелю, а ў вёсках — у будзённыя дні. Гэта нейкае недаразуменне. У горадзе на фільм могуць людзі прыйсці ў кожны дзень. У вёсках такой магчымасці сяляне не маюць, дык гэтую справу трэба неяк змяніць.



Фота Цаф — Сянько

Яшчэ адна справа. У нашых вёсках жыве многа бабуляў і дзядуляў, якія ведаюць старыя песні, прымаўкі і казкі. Яны старэюць, паміраюць. Мне даводзілася запісваць песні амаль ужо перад смерцю тых, якія іх ведалі. Гэтым чынам выратаваў я ад забыцця важныя дакументы беларускага народнага фальклору. Гэтай справай больш сур'ёзна і планава павінна заняцца Галоўнае праўленне і «Ніва».

Кніжка, беларуская кніжка. Іх у бібліятэках ёсць многа. Яны цікавыя. Толькі, што ў нас зроблена, каб агітаваць людзей для чытання гэтых кніжак. Амаль нічога. Вось у Днях асветы, кніжкі і друку ўсе арганізацыі і ўстановы аж са скуры выходзяць, каб заахвоціць насельніцтва да кніжак. А таварыства? Што робіць таварыства? Таму і мала ў нас чытачоў беларускіх кніжак. Трэба людзям тлумачыць, што гэта за кніжка, пра што яна, і тады чалавек возьме яе і прачытае. Чытальніцтва беларускай кніжкі павінна з'яўляцца абавязкам кожнага члена БГКТ.

Справа рэпертуару для аматарскіх драмгурткоў. Калісьці «Ніва» друкавала рэпертуарныя дадаткі. Цяпер гэтага няма. А гурткі не маюць што ставіць. Алесь Барскі, будучы на канферэнцыі ў Гайнаўцы, абяцаў, што напіша другую п'есу для драмгурткоў. Гэтага аднак мала. Добра было б, каб іншыя члены Літаб'яднання таксама аб гэтым падумалі.

І яшчэ пра «Лявоніху». «Лявоніха» можа знеахвоціць людзей да сябе, калі абяцае, а не выконвае сваіх абяцанняў. Вось абяцала яна аж тры разы, што прыедзе ў вёску Луку на Гайнаўшчыне. Людзі чакалі і не дачакаліся. Так нельга. Гэта насмешка з людзей.

# У АДНУ РУКУ З ПАРТЫЯЙ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ЧЛЕНА ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ АЛЯКСАНДРА БАРШЧЭЎСКАГА)**

Гэтае, што я хачу сказаць, датычыць перш за ўсё суадносін з іншымі арганізацыямі — з Ваяводскім камітэтам партыі і Павятовымі камітэтамі партыі. Ёсць несумненным фактам, што там, дзе супрацоўніцтва з Павятовым камітэтам партыі ўкладаецца дрэнна, вынікі нашай працы слабыя. Бачым гэта на прыкладзе Беластоцкага павета.

Магло б выдавацца, што мае прэтэнзіі зусім недарэчлівыя. Маем жа сваю праграму, сваю арганізацыю, маем свабодную руку. Справа аднак у тым, што мы не хочам мець свабоднай рукі. Мы хочам мець адну руку і адзін мозг з партыяй, бо толькі тады можам запэўніць правідловы кірунак нашай дзейнасці і добрыя вынікі ў нашай працы.

...Тут многа гаварылася пра музей і мы даўно пра яго гаворым. Справа выглядае так, што калі абмяжуемся толь-



 



## Святасць „рускага“ языка

Паўсюдна вядомым з'яўляецца значэнне нацыянальнай мовы для ўзнікнення, утрымання і развіцця нацыі, для фармавання нацыянальнага пачуцця, нацыянальных сентыментаў і сімвалаў нацыянальнай годнасці. Значна менш вядомым з'яўляецца значэнне мовы, як этнічнай і рэлігійнай святасці. На гэты, вельмі істотны ў народнай свядомасці факт, хацеў бы ніжэй звярнуць увагу.

Польскі эміграцыйны вучоны Генрык Пашкевіч напісаў абшырную кнігу, на тэму: станаўленне рускай нацыі (The Making of the Russian Nation) Не будзем тут узаходзіць у далёка ідучыя і несумненна вельмі дыскусійныя вывады, якія ставіць аўтар гэтай кніжкі. Нас цікавіць іншае: падрабязны лінгвістычны аналіз найстарэйшых помнікаў рускай пісьмовасці, які ён праводзіць у гэтай кніжцы. З аналізу вынікае, што грэчаскае слова «этнас» у старарускіх тэкстах найчасцей тлумачылася словам «язык», якое мела тут выразна рэлігійнае значэнне. Людзьмі «нашага языка» называлі праваслаўных, людзей іншых веравызнанняў называлі «іноязычнікамі» або проста «язычнікамі».

Праявы гэтага тыпу свядомасці не адрозніваўшай мовы ад веравызнання знаходзім у выступленнях беларускіх сялян міжваеннага перыяду. Так, напрыклад, у трыццатыя гады селянін з вёскі Каменя ў Гайнаўскім павеце — Аляксандр Данілюк надрукаваў у друкарні Мішондзіка ў Беластоку шэраг лістовак, якія раздаваліся праваслаўным веруючым у час рэлігійных фэстаў. У лістоўках гэтых выступаў ён у вострай форме ў абароне «рускай веры» (праваслаўя) і рускай мовы — трактуючы іх заадно. Абураюць яго такія дзіўныя і не зразумелыя, не звязаныя з ніякай мовай ні этнікай веравызнанні, як хаця б баптызм. Данілюк у сваіх лістоўках пісаў:

«Всем народам Бог дал веру и язык и письмо собственное. А субботникам и баптистам Бог не дал языка. А диявол глупый: он только выдумал для их веру. Аминь».

І ў іншым месцы:

«Баптисты и все инные секты, веру вы найшли, а языком вы говорите нашим. Так и пишите и говорите по баптически, тогда скажу, что вера ваша от Бога, а так — от диявола».

Які гэта быў аднак наш язык, які для Данілюка і яму падобных меў значэнне рэлігійнай святасці. Не была гэта беларуская мова, да якой вясковыя «абаронцы праваслаўя» адносіліся абыякава, не была гэта сапраўдная руская мова, якой нашыя сяляне заўсёды карысталіся вельмі слаба, не былі гэта нават мясцовыя гаворкі, якіх чысціні ніхто ніколі не абараняў, ні нават старaславянская мова, якую нямногія ўсур'ёз разумелі. Так званы «наш рускі язык», аб якім гаварылі сяляне Беласточчыны — гэта ўся бліжэй не акрэсленая, прымежная «рускасць», усходнеславянскасць, з рознымі рэгіянальнымі і індывідуальнымі адхіленнямі. Гэта ўсе прыгранічныя беларускія, украінскія і розныя пераходныя гаворкі — заўсёды для рэлігійных патрэб крыху русіфікаваныя і архаізаваныя ў стылі рэлігійнай літаратуры. Індывідуальныя і жаргонныя розніцы ў мове людзей, якія залічаюць сябе да супольнасці «рускага языка», могуць быць вялікія, затое супольным ім з'яўляецца перакананне, што выгаварваючы напалавіну зразумелы, а то і зусім не зразумелы тэкст Кірылы і Мефодзія, спяваючы старую рускую песню, размаўляючы рознымі гаворкамі — заўсёды карыстаюцца менавіта гэтай сваёй «рускай» мовай. У гэтай мове і толькі ў ёй ў адчуванні праваслаўных веруючых Беласточчыны можна назязаць кантакт з Богам і весці з ім размову. Можна маліцца.

Мае гэта сваё выясненне ў псіхалогіі рэлігійных перажыванняў. Рэлігійны настрой выклікаць могуць толькі некаторыя словы — глыбока асаджаныя ў грамадскай традыцыі, сягаючыя ўглыб дзяцінства, павязаныя з падсвядомасцю адзінкі, а адначасова — словы незвычайныя, святочныя, не тыя, якія вядомы са звычайных, шэрых дзён. Адтуль архаізацыя і незразумелая амаль старaславянскасць.

Таму рэалізаваны да вайны пры санацыйных уладах план паланізацыі праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны дарогаю паланізацыі царкоўнага жыцця, а перш за ўсё пропаведзяў і багаслужэнняў мог зрадзіцца толькі ў галовах людзей, якія нічуць не разумелі народнай псіхалогіі і народнай рэлігійнасці. Усходнеславянскі, традыцыйны характар царквы астаецца нават тады, калі насельніцтва ў меншай ці большай ступені паланізуецца. У Беластоку, напрыклад, у царкве веруючыя часта размаўляюць паміж сабою на польскай мове. Ад святароў чакаюць аднак толькі «рускай» мовы, прычым у адчуванні веруючых — справай другараднай з'яўляецца тое, ці гэтая «руская мова» будзе сапраўды рускай, ці будзе гэта — скажам — мова беларуская.

**У. Паўлючук**

9 чэрвеня, 1969 года. Прасторная канферэнцыйная зала ВРН у Беластоку напоўнілася людскім гоманам. Гэта новавыбраныя радныя з'ехаліся на сваю першую сесію.

Ёсць іх роўна 100 чалавек, 100 намі даверaных.

Сярод прысутных бачу сялян, рабочых, настаўнікаў, працаўнікоў культурных устаноў, дзеячаў палітычных партый, грамадскіх і маладзёжных арганізацый, кіраўнікоў гаспадарчага жыцця Беласточчыны, прадстаўнікоў войска і міліцыі. Усе разам складаюць найбольш поўнае прадстаўніцтва нашай беластоцкай зямлі.

Моўкнуць апошнія галасы. За прэзідыяльны стол уваходзіць старшыня прэзідыума папярэдняй ВРН Стэфан Жмійка. Ён вітае прысутных, а сярод іх — паслоў Беласточчыны: старшыню Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю — З. Новака, члена ЦК і I сакратара Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку — А. Лашэвіча і члена Рады Дзяржавы ды члена цэнтральных улад Дэмакратычнага стронніцтва — Е. Красоўскую. Затым уступае месца за прэзідыяльным сталом старшыні першай, урачыстай сесіі ВРН, старэйшыне радных Л. Мяльвінскаму. Сакратаром сесіі — радная Забароўская.

Некалькі мінут пазней наступае найбольш урачысты момант. Пры поўнай цішыні раздаецца толькі голас сакратара сесіі:

«Урачыста клянуся, што я, радным, буду працаваць, дзеля дабра польскага народа і паглыбляць яго еднасць, буду замацоўваць сувязь дзяржаўнай улады з працоўнымі, дбаць пра іх справы, не шкадаваць сваіх сіл для ажыццяўлення задач рады нарадовай».

Слоў клятвы ўсе слухаюць стоячы, а пасля кожны радны паўтарае: **«Клянуся».**

Цяпер радныя могуць ужо разглядзець парадак дня сесіі і прыступіць да яго выканання.

Старшыня сесіі просіць сакратара Ваяводскага камітэта партыі, раднага Аляксандра Младзяноўскага, каб ад імя Паразумяваўчай камісіі партыі і




палітычных стронніцтваў, а таксама ад імя Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа пазнаёміў усіх прысутных з вынікамі выбарчай кампаніі.

«На дзесятках сходаў, канферэнцый і нарад жыхары Беласточчыны, — гаварыў тав. Младзяноўскі, — правялі ацэнку выбарчай праграмы з 1965 года, выказалі свае адносіны да галоўных напрамкаў развіцця краіны і ваяводства, якія ўстанаўляе праграма Фронту адзінства народа на 1969—1972 гады, ды 1 чэрвеня сярод кандыдатаў выстаўленых камітэтамі Фронту адзінства народа нашага ваяводства выбралі: 17 паслоў, 100 радных Ваяводскай рады нарадовай, 1140 радных павятовых рад нарадовых і гарадской рады для горада Беластока, ды 7750 радных для пасёлкаў, грамад і мястэчак.

Дакладчык высока ацаніў грамадскую актыўнасць усіх жыхараў Беласточчыны.

«У цэлым ваяводстве, — сказаў ён, — не было ніводнага выбарчага раёну, ніводнай мясцовасці, дзе ў выбарах прыняло б удзел менш, як 90 працэнтаў упаўнаважаных да галасавання. У 71 выбарчым раёне ў выбарах прынялі ўдзел усе ўпаўнаважаныя... Выбары ў нашым ваяводстве, як і ў цэлай краіне, праходзілі ва ўрачыстым настрою, наглядалася высокую патрыятычную актыўнасць выбаршчыкаў.

Пасля выступалі прадстаўнікі палітычных стронніцтваў: Я. Чапля і З. Букоўскі, прафсаюзаў — Д. Карповіч, Лігі Жанчын — З. Матэйчык, войска — З. Катоўскі і моладзі — М. Козак. Усе яны выяўлялі падтрымку для праграмы Фронту адзінства народа.

У выніку тайнага галасавання старшынёю Прэзідыума ВРН выбрана Стэфана Жмійку, а яго намеснікамі — Уладзіміра Міхалюка, Ежы Зентару і Рамуальда Лазаровіча. Апрача іх у склад Прэзідыума ВРН, як не штатных членаў, радныя выбралі: Леона Мяльвінскага, які з'яўляецца дырэктарам Ваяводскага аддзела Нацыянальнага польскага банку, Яна Чаплю — віцэ-старшыню ВК ЗСЛь, Рамана Філіповіча — дырэктара Акруговага праўлення дзяржаўных лясоў і Здзіслава Пукорскага — намесніка дырэктара прадпрыемства «Рух». Сакратаром Прэзідыума ВРН выбраны Ежы Кошэль.

Так вось 100 нашых давераных правялі сваё першае супольнае пасяджэнне. Жадаем ім поспехаў.

**Віктар Рудчык**

## ПРАЦАЎНІЧЫЯ ВОДПУСКІ

6 мая ў № 12 Урадавага дзённіка апублікаваны закон ад 29 красавіка г.г. аб працаўнічых водпусках, які абавязвае ад 1 студзеня 1969 года. Закон устанаўляе права на водпуск аднолькава для працаўнікоў разумовай і фізічнай працы. Паводле гэтага закону працаўнікам прыслугоўвае права да штогадовага бесперапыннага платнага водпуску, а менавіта:

1) 14 рабочых дзён пасля году працы,

2) 17 рабочых дзён пасля трох гадоў працы,

3) 20 рабочых дзён пасля шасці гадоў працы,

4) 26 рабочых дзён пасля дзесяці гадоў працы.

Да прамежку часу, ад якога залежыць даўжыня водпуску, улічваецца

1) працаўніку, які закончыў асноўную прафесіянальную школу — час навукі, не больш аднак чым 3 гады,

2) працаўніку, які закончыў сярэднюю прафесіянальную школу акрэслены час навукі, але не больш 5 год,

3) працаўніку, які закончыў агульнаадукацыйную сярэднюю школу — 4 гады,

4) працаўніку, які закончыў паматуральную школу — 6 гадоў,

5) працаўніку, які закончыў вышэйшую школу — 8 год.

Працаўнік набывае права да першага водпуску пасля году працы, а да далейшых водпускаў у кожным каляндарным годзе. Прыкладам, калі хто працуе ад 1-га кастрычніка 1968 года, набывае права да водпуску ў кастрычніку 1969 года, а ад 1-га студзеня 1970 года ён будзе мець права да водпуску за 1970 год.

Да прамежку часу, ад якога залежыць набыццё права на водпуск або яго даўжыня, улічваюцца прамежкі часу працы ў папярэдніх прадпрыемствах і ўстановах — калі змена працы наступіла на працягу 3-х месяцаў ад развязання ўмовы працы. Аднак калі ўмову дэкансіраваў сам працаўнік — ён набывае права на водпуск пасля гадавой працы ў новым прадпрыемстве.

Працаўнік, з якім па яго віне прадпрыемства развязала ўмову працы без дэкансіравання, або які самавольна кінуў працу — набывае права на водпуск пасля году працы ў новым прадпрыемстве ў размеры непасрэдна ніжэйшым, чымсьці прыслугоўваў яму перад гэтым. Гэтае абніжэнне абавязвае толькі адзін каляндарны год.

Сезонным працаўнікам прыслугоўвае адзін дзень водпуску за кожны прапрацаваны месяц.

Працаўнік траціць права да водпуску за год, у якім працаўнік дэкансіраваў умову працы або самавольна кінуў працу, а таксама тады, калі прадпрыемства звольніла яго па яго віне без дэкансіравання.

Грашовы эквівалент у выпадку невыкарыстання прыслугоўваючага працаўніку водпуску — прыслугоўвае толькі тады, калі прадпрыемства развязала ўмову працы без віны працаўніка, або працаўнік пакліканы ў войска.

кі да слоў, то праз тры гады на наступным з'ездзе пра музей гаварыць ужо не будзем. бо многія экспанаты проста



Фота Цаф — Сянько

згніюць. Кліматычныя ўмовы і тэмпература, і забеспячэнне абсалютна не адпавядаюць музеальным патрабаванням. Ужо ўкралі з музея тры вельмі цікавыя экспанаты — каменныя сякеры, зробленыя нашымі продкамі.

Музей наш мае вельмі цікавыя экспанаты. Прывяду прыклад. Быў я вось у Парыжы і там глядзеў музей чалавека. З кожнай дзяржавы знаходзіцца ў гэтым музеі па два-тры экспанаты. З Польшчы два і адзін з іх — драўляны кубак — з Беласточчыны. Калі паўстаў наш музей, я пабачыў чатыры ці пяць такіх кубкаў, толькі больш арыгінальныя і больш цікавыя, як гэты ў Парыжы. І таму трэба перайсці да дзеянняў, да чынаў. Трэба збудаваць будынак, які ёсць справай жыцця і смерці нашага музея, жыцця і смерці нашай старасветчыны. Звяртаюся тады яшчэ раз з гэтай справай, каб не адкладаць яе, каб не спіхаць з адной установы на другую, каб урэшце заняцца і поўнасцю яе выращыць.

Хачу яшчэ сказаць, бо гэта мяне найбольш цікавіць, што нягледзячы на тое, што выдавецкія магчымасці ў нас даволі вялікія, што мы выдалі даволі многа кніжак, што нашыя паэтычныя зборнікі выдаюцца, калі ідзе аб агульнапольскія ўмовы, у каласальнай колькасці экземпляраў, бо выдаем іх тыражом у тры-чатыры тысячы, калі польскія паэтычныя зборнікі выходзяць па 500—700 экземпляраў, нягледзячы на тое, што нашыя кнігі праз 2—3 гады поўнасцю разыходзяцца — няма асноў, каб захапляцца ходам нашых выдавецкіх спраў. Калі мы будзем прытрымоўвацца дагэтуляшніх тэмпаў, знойдуцца пісьменнікі сярод членаў Літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якіх зборнікі выйдуць за нейкіх 30 год або ўжо пасмертна.

А вось іншая, пацяшаючая для нас з'ява. У Гайнаўскім аддзеле налічыў я сярод членаў БГКТ больш-менш 80% людзей, якія маюць па 16—17—18 год. Гэта абазначае, што тады, калі арганізавалася нашае таварыства, у 1956 годзе, гэтыя людзі мелі больш-менш па 4—5—6 год. Не мелі яны тады абсалютна аніякага паняцця аб нацыянальнай свядомасці, ані аб справах беларускіх Гэта значыць, што прыходзіць да нас маладое пакаленне, якое пераймае нашу эстафету. І гэта якраз ёсць адказ тым усім скептыкам, якія лічылі, што справа паклікання да жыцця Беларускага грамадска-культурнага таварыства была толькі фікцыяй, была толькі справай рамантыкаў, старых КПЗБ-оўцаў, была ініцыятывай штучнай. Якраз гэтыя маладыя людзі сведчаць аб тым, што таварыства мае рацыю быту, што выконвае правільную ролю, што павінна існаваць.

Я думаю, што ў многім мы самі вінаваты. Можа замала мы хадзілі да ўстаноў, да партыі, да Міністэрства ўнутраных спраў, замала стукалі і таму якраз замалыя рэзультаты ў нашай дагэтуляшняй дзейнасці. Таварыства наша і яго дзейнасць абапіраюцца на эмоцыі і на сэрцы. Дык давайце, таварышы, будзем так працаваць, каб вакол нашага таварыства было больш эмоцыі і сэрца!




## Помста баранесы Клісон

У шматвекавой гісторыі марскога піратцтва — гісторыі крывавага промыслу, звязанага з гандлем рабамі, з каланіяльнымі захопамі, бруднай палітыкай каралёў і бізнесменаў усіх відаў, — даволі шмат і жаночых імёнаў: жанчына-пірат, так сказаць, першая «лэдзі ўдачы», успамінаецца ў старажытнай хроніцы яшчэ за васемсот гадоў да нашай эры.

Амаль усе летапісцы, здзіўленыя незвычайным лёсам піратак, акружалі іх справы ўсялякімі легендамі, бачылі ў піратках то рамантычных гераінь, то мсціўцаў за зняважаны гонар. Але легенды ўзніклі потым, сапраўднасць жа мела куды больш празаічную аснову — золата...

Адзін гальскі дваранін па імю Алівер дэ Клісон з Нанта заявіў неяк на ўвесь голас, што на тым баку праліва жывуць не толькі разбойнікі, але і высакародныя людзі, рыцары, прысутнасць якіх за «круглым сталом» зрабіла б гонар любому каралю, у тым ліку і французскаму. Кароль Францыі ўспрыняў гэта як асабістую знявагу. Вальнадумнага барона схапілі, даставілі ў Парыж, падверглі катаванням і, нарэшце, публічна адсеклі галаву. Адбылося гэта каля 1315 года.

Яго жонка паклялася адпомсціць за смерць мужа. Яна прадала ўсе свае каштоўнасці і маёнткі, падрыхтавала тры судны і наняла матросаў, якія за добрую плату згодны былі падпарадкоўвацца не толькі жанчыне, але нават д'яблу. У дапамогу сабе баранеса ўзяла абодвух сыноў.

Закончыўшы падрыхтаванні, мадам Клісон загадала падняць ветразі і без перашкод пакінула Нант. Яе суправаджалі ўхмылкі гараджан і спагадлівыя ўсмешкі «бацькоў горада», бо ніхто не прымаў яе задуму ўсур'ёз. Але ўжо неўзабаве ім прыйшлося змяніць сваю думку.

Не прайшло і некалькі тыдняў, як у Парыж адна за адной пасыпаліся скаргі пацярпеўшых: нямногія пасажыры, што цудам выратаваліся і ўсё яшчэ дрыжэлі ад страху, апісвалі шалёныя абардажы, крывавую разню і бязлітаснае знішчэнне караблёў. І кожны з іх з жахам успамінаў пра жанчыну, сапраўдную фурыю, якая, як шалёная, размахвала мечам, і пра двух хлопчыкаў побач з ёю, якія не менш люта секлі направа і налева.

Баранеса даўным-даўно забылася аб сваёй клятве — яна перайшла да прамога тэрору мірнага насельніцтва, спальваючы ўшчэнт цэлыя прыбярэжныя вёскі. За піраткай ганяліся, але злавіць ніяк не маглі. Яна або ўцякала ад праследвацеляў, або нечакана нападала на іх, і тады нікому не было літасці.

Але нечакана разбой спыніўся, што выклікала ўсеагульнае здзіўленне і фантастычныя меркаванні. Гаварылі, што баранеса Клісон, не чакаючы адплаты, пайшла ў Атлантычны акіян і папала ў шторм, які здолеў зрабіць тое, перад чым быў бяссільны флот французскага караля.

У другой палавіне шаснаццатага стагоддзя расцвітае англійскі пірацкі промысел. Джэнтльмены ўдачы, атрымаўшы благаславенне на разбой ад самой каралевы Лізаветы, названай Вялікай Лісі, ішлі ў далёкія і блізкія моры, рабуючы і знішчаючы ворагаў англійскай кароны, асабліва іспанскія і партугальскія караблі, не цырымонячыся пры гэтым з «купцамі» нейтральных краін. Захопленае багацце «сумленна» дзялілася паміж каралеўскай казной і лаўцамі шчасця.

Нічога дзіўнага, што і сярод знатных сем'яў Англіі працвітала піратцтва, тым больш што іх нячысты промысел аблягчаўся блізкасцю да двара і іншымі сувязямі ў розных «ведамствах і інстанцыях».

### ПЕКАР ПРЫРОДА

**Конскі каштан**

Кветкі конскага каштану і лісце шырока ўжываюцца ў народнай медыцыне. Адвар з кветак рыхтуецца наступным чынам. Сталовая лыжка пасушаных здробленых кветак заліваецца шклянкай вару і шчыльна закрыты посуд ставіцца ў злёгку астыўшую рускую печку. Настой рыхтуецца на гарэлцы. Дробныя высушаныя кветкі заліваюцца гарэлкай і настойваюцца на працягу сутак, пасля чаго настой гатовы да ўжывання. Конскі каштан ужываюць пры захворваннях сэрца (шклянку адвару або 3 разы на дзень па 1 сталовай лыжцы настою), захворваннях печані, гастрыце, белакроўі, адышцы, туберкулёзе лёгкіх, раматусе. Пры раматусе настойкай кветак націраюцца. Рыхтуюць настой для націрання і са свежых кветак і лісця на спірце. Націраюцца нанач і цёпла захутваюцца.

### МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Рэстаран пад вадой**

Першы падводны рэстаран у СССР — «Дары мора» — вырашана пабудаваць у Сочы. Гэты рэстаран разлічаны на 300 наведвальнікаў, прычым у яго глыбінным «адсеку» змогуць адначасова паабедаць 50 гасцей.

### КУЛІНАРЫЯ

Таплёнае малако можна прыгатаваць не толькі ў рускай печы ці духоўцы, але і ў звычайным тэрмасе. Для гэтага толькі што закіпеўшае малако адразу ўліваюць у чысты, прапалосканы гарачай вадой тэрмас і закрываюць накрыўкай. Праз 6—7 гадзін малако стане ружовае і водарнае.






## STEFAN BATORY



**Новы польскі трансатлантычны параход «Стэфан Баторы», які ў красавіку г.г. пачаў рэгулярныя рэйсы ў Канаду.**

АЛЯКСАНДРА УС, АЛЕНА УЛАДЗІМІРАВА




### З КІМ ВЫ, ПРАФЕСАР?!

І там, на Каменнай, 12, падпольшчыкі з групы «Нафтавік» спыталіся ў прафесара Клумава:

— З кім вы, прафесар? З намі ці з немцамі?

— Што вы! Што вы, галубчыкі! Я — савецкі чалавек. Я і так раблю, што магу. Мы падлячылі ўжо шэсць раненых камандзіраў Чырвонай Арміі, толькі не ведаем, куды іх адправіць...

— Ваша падпольная клічка будзе...

— Самарын, — падказаў сам прафесар.

— Добра. На вас, таварыш Самарын, мы ўскладаем вялікія надзеі. Перш-наперш, спадзяемся з вашай дапамогай абсталяваць два партызанскія шпіталі. І яшчэ...

— У нашу бальніцу прывозяць раненых з СД, з гестапа...

— Так, так. Вось пра гэта мы таксама хацелі з вамі пагаварыць. І яшчэ...

І з таго дня... Быў прафесар Клумаў — свяціла навукі, першы спецыяліст па гінекалогіі і хірургіі. Да яго на кансультацыю і параіцца прыходзілі фанабэрыстыя нямецкія ўрачы з ваенных шпіталяў, яго запрашалі да сваіх хворых жонак чыноўнікі з гарадской управы і іншых устаноў, што, нібы мухаморы пасля дажджу, выраслі ў акупіраваным горадзе. Яго задобрывалі: «гер прафесар, гер прафесар»... Яму, як высокі гонар, прапаноўвалі работу ў Германіі.

— Там, гер прафесар, вас будуць вельмі цаніць. О! У нас умеюць паважаць такіх спецыялістаў.

І быў «Самарын» — падпольшчык, канспіратар, чалавек, які жыў на вастрыі нажа. Нават простай выпадковасці было дастаткова, каб уся яго дзейнасць стала вядомай ворагу. І ўявіце сабе на адну хвіліну: чалавек, якога ведала ў твар палавіна горада, калі не больш, паедзе сярод белага дня на бальнічным возе лячыць раненага партызана! Да чалавека гэтага з партызанскіх атрадаў будуць ісці і ісці сувязныя. І выходзіць з яго кабінета з пакункамі, кошыкамі, пляшкамі. Першы непрадбачны выпадак мог бы навесці на след...

Амаль што кожны крок патрыётаў-медыкаў Мінска ў гады акупацыі, кожны лёс, з якім стыкаешся, — незалежна ад таго, жывы чалавек ці загінуў, — вядзе і, пэўна, доўга яшчэ будзе весці да яго, да Клумава. Можна нават стварыць прыблізную схему: у бальніцы было столькі і столькі падпольных груп. Кожная працавала сама па сабе, у сакрэце ад іншых. І цяпер, здараецца, як навіна тучыць для людзей: І яна (або ён) былі таксама падпольшчыкі? А я і не ведаў (ці не ведала)... Затое да Клумава ад усіх гэтых груп на ўмоўнай схеме ідзе прамая лінія. Яго ведалі ўсе. Ён ведаў усіх. Да яго ішлі ўсе. Ён памагаў усім... Да яго ішлі без боязні, часам не зважалі нават на законы канспірацыі. Такі ён быў — «свой», савецкі. Такі бязмежны давер выклікаў у людзей.

А пакуль што — у бальніцы навіна. Немцы паставілі на чале яе, фактычна зрабілі гаспадаром і галоўным урачом Барыса Барысавіча Зубарава. Хто такі?

### ПРАФЕРАНС І КРОЎ

— Пазнаёмімся, панове. Я ваш новы галоўны ўрач. Будзем працаваць разам. Спадзяюся, мы знойдзем агульную мову. Ад вас патрабуецца толькі адно: сумленна выконваць свае абавязкі. — Ён зрабіў выразную паўзу, насупіўся і прыстукнуў па-ваеннаму абцасамі. — А яшчэ... папярэджваю і прашу запомніць: камуністаў і яўрэяў у сваёй бальніцы не пацярплю!..

Некалькі дзесяткаў людзей у белых халатах моўчкі выслухалі «тронную» прамову Зубарава. Некалькі дзесяткаў пар вачэй па чарзе вытрымалі на сабе выпрабавальны позірк новага галоўнага ўрача. Звычайныя, простыя твары. «Камуністычнай атруты» ні на адным з іх не заўважыў Зубараў і, задаволены першым знаёмствам, вырашыў з ходу пачаць наладжванне кантактаў з сваімі падначаленымі. Ён літасціва адпусціў санітарак і сясцёр, а ўрачоў папрасіў на хвілінку астацца.

— Сёння вечарам чакаю вас, панове, у сябе дома. Пасядзім, вып'ем па рускаму звычаю чаю, згуляем у праферанс. Пані Зубарава таксама будзе рада...

Ну, што да пані Зубаравай, то яна ніколі не вызначалася асаблівай гасціннасцю. Яна не любіла людзей і не старалася ад каго-небудзь гэта схаваць. Не любіла жанчын, бо іх занадта прывячаў яе муж, і ўсё сваё жыццё яна пакутавала ад гэтага. Не любіла мужчын, асабліва сваіх суайчыннікаў, рускіх эмігрантаў, гэтых бязвольных балбатуноў, якія толькі і чакалі, пакуль нехта паднясе ім на сподачку «Расію»... І гэтая іх песня, гэты іх слюнявы «гімн»: «...Осенние листья, нас бурей сорвало, и несёт и несёт...»

Увесь час яе мужа сапраўды «насіла, насіла» па розных мясцінах, прыбіваючы да розных гаспадароў, да розных жанчын. Ёй часам здавалася, што ўсё роўна, дзе жыць: у Латвіі, у Германіі ці ў Расіі... Вось каб жыць там, дзе няма гэтых бландзінак, брунетак, шатэнак, прыгожых і ненавісных, дзе няма верціхвостак, да якіх заляцаецца муж. А палітыка... У партыю нацыстаў яна ўступіла таму, што ўбачыла, нарэшце, пэўную, хоць і жорсткую сілу. Хіба можна з імі параўноўваць эмігрантаў, гэтых балбатуноў?

Пад сваю кватэру новы гаспадар

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЕТЭРЫНАРНЫ ПУНКТ

У Рыбалах існуе ветэрынарны пункт. Апошнім часам працуе тут лекар Збігнеў Мінскі. І працы тут многа. З ветэрынарных парад карыстае 9 вёсак. Захворванняў жывёлы шмат. Але ўмовы да працы вельмі цяжкія. Перш за ўсё цесната. Няма тут нічога, няма аніякага абсталявання, няма нават аперацыйнага стала. Лекар робіць усё, што можа, і аказвае вялікую прыслугу сялянам.

І вось тут у Рыбалах ёсць патрэба пабудовы ветэрынарнай лячэбніцы.

(мм)

## ДЗЕНЬ СПОРТУ

У Бельскім беларускім ліцэі, як і ў многіх іншых школах, дзень 7 чэрвеня быў сапраўды ўрачыстым і святочным. Гэта быў дзень спорту. У 8 гадзін раніцы ўсе вучні гэтай школы сабраліся на спартыўнай пляцоўцы школы, дзе неўзабаве адбыліся спартыўныя заняткі. Усім гэтым кіравалі настаўнікі: Мар'я Красоўская і Станіслаў Максымовіч, якія падрыхтавалі план заняткаў.

Дзень якраз быў ясны і прыгожы. Ярка прыпякала вясенняе сонейка, і таму на твары амаль кожнага вучня можна было ўбачыць радасць і ўсмешку.

**Вера Ахрымюк**
Бельскі беларускі ліцэй

## АДКРЫЦЦЁ СВЯТЛІЦЫ

У Спічках (Бельскі павет) гурток БГКТ (старшыня Галена Себясевіч) супольна з гуртком ЗМВ-у (старшыня Павел Жменька) некалькі месяцаў таму назад пастанавілі правесці рамонт святліцы. З гэтай мэтай сабралі грошы сярод аднавяскоўцаў і прыступілі да працы. Грамадскім чынам правялі рамонт. 8-га чэрвеня на адкрыццё свайго культурнага цэнтра запрасілі мясцовыя ўлады.

Забіраючы голас старшыня Прэзідыума ГРН у Орлі даў высокую ацэнку ініцыятыве моладзі і паабяцаў грашовую дапамогу з боку ГРН. Гаварыў ён, што ГРН дапаможа, каб зрабіць лепшую падлогу ў святліцы, а таксама закупіць сучаснае да яе абсталяванне.

(хх)

## ДАШОЎСКІ ЛьЗС

У вёсцы Дашы (Гайнаўскі павет) шмат моладзі. Многія юнакі і дзяўчаты належаць да гуртка ЛьЗС, які існуе ўжо 3 гады. У вёсцы не было спартыўнай пляцоўкі. Дзякуючы ЛьЗС пабудавана тут спартыўная пляцоўка. Варта падкрэсліць добрую працу старшыні ЛьЗС Лёні Коціка, Мікалая Такаюка, Пятра Грашкевіча і Шымана Сельвановіча, якія служаць прыкладам у грамадскай працы і ў працы арганізацыі ЛьЗС.

Я. В.
Бельск

**Дарагое Сэрцайка!**

Мне 25 год. Жыву на вёсцы. Пазнаёмілася я з хлопцам, які мае 27 год. Тры гады таму ён разышоўся з жонкай, але дзяцей у іх не было. Ён працуе таксама на гаспадарцы ў бацькоў, толькі ў суседняй вёсцы. Калі ён прыехаў да мяне ў сваты, быў вельмі ветлівы, не піў амаль водкі. Спадабаўся і мне і маім бацькам. Але пасля нейкага часу, да нас прыйшла адна жанчына з тае вёскі і «нагаварыла». Мы не паслухалі. Ён выдаўся нам вельмі парадачным чалавекам. Пеця ездзіў штодзённа і прасіў бацькоў, каб я ўжо ішла з ім жыць. Мы падаліся на запісы, але трэба чакаць месяц. Я пайшла. Не прайшло і дзве нядзелі, як мой будучы муж паказаў сваё сапраўднае аблічча. Штодзённа не выходзіў з крамы ў вёсцы і прыходзіў усё п'яны. Калі я пачала крычаць, тады ён сказаў, што калі мне не падабаецца, дык ён не трымае мяне, бо я сама прыйшла да яго. Мерка перапоўнілася, як кажуць, і я забрала свае рэчы і вярнулася да бацькоў. На-




дышоў тэрмін нашага шлюбу, але я не пайшла ў ЗАГС. Калі я там не з'явілася, ён адразу ж (таксама п'яны) прыехаў да мяне да бацькоў і пачаў прасіць, каб я згадзілася, аднак пры тым паінфармаваў, што ён не зменіцца і нічога ў гэтым дрэннага не бачыць. Я і згадзілася на вызначэнне другога тэрміну, але бацькі мае робяць мне авантуры, а проста бацька сказаў, што выракнецца мяне, калі я не паслухаю і выйду замуж за Пецю. Яшчэ маю крыху часу, каб усё раздумаць. Парай, Сэрцайка, што ты думаеш, хто з нас мае рацыю? Чакаю вельмі хуткага адказу.

**Зіна з Сакольшчыны**

**Дарагая Зіна!** Напэўна маюць рацыю твае бацькі. Лепш разысціся цяпер, калі нічога вас не яднае, чым тады, калі будуць дзеці. Усё прайшло, і ты забудзь пра Пецю, а перад тым скажы яму проста, каб перастаў да цябе ездзіць, бо ты катэгарычна рашыла не выходзіць за яго замуж. Маеш толькі 25 год, напэўна жыццё тваё ўладзіцца лепш. Не можна ж свядома марнаваць свайго жыцця, яно ж толькі раз бывае.

**Жадаю ўсяго добрага**
**Сэрцайка**

## ВЕСТКІ З ДЗЯНІСАК

### Дзе пойдуць вучыцца

У Дзянісках у VIII класе 9 вучняў. Усе яны ідуць вучыцца далей у сярэднія школы. І так: у тэхнікуме сельскагаспадарчай рахунковасці будзе вучыцца 3 асобы, у эканамічным тэхнікуме 2 асобы, у агульнаадукацыйным ліцэі таксама 2 асобы.

У ліцэі медсёстраў і мастацкі пайшло па адным вучню. Як бачым, усе васьмікласнікі з Дзянісак пойдуць здабываць цікавыя прафесіі.

### Чытачы «Нівы»

У дзяніскаўскай школе вучыцца 57 дзяцей. З іх 35 вучняў з'яўляюцца падпісчыкамі «Нівы». Усе гэтыя 35 асоб зрабілі падпіску «Нівы», таксама і на час канікулаў.

### Адпачынак

Кожны год частка вучняў з Дзянісак едзе ў Бельск Падляшскі на 5-цідзённы адпачынак. У гэтым годзе 10 асоб на пачатку ліпеня будзе адпачываць. Прадбачана, што на працягу 5-ці гэтых дзён школьнікі пабываюць на дзвюх экскурсіях. Адна ў Белавежы з наведваннем Гайнаўкі, а другая ў Беласток.

### Дзяцінец

Сельскагаспадарчы гурток у Дзянісках узорам мінулых год, на летні перыяд часу, калі найбольш палявых работ, пастанавіў арганізаваць дзяцінец. Тут дзеці пад апекай настаўнікаў добра гуляюць, добра чуюцца. І тады зусім няма аніякай пагрозы, што пачнуць яны гульню з запалкамі, або іншую, якая вядзе да пажару.

У мінулым годзе ў дзяцінцу, які змяшчаўся ў школе, было пад апекаю настаўніка 15 дзяцей. У гэтым годзе дзяцей таксама не будзе менш.

### Партыйная арганізацыя

Партыйная арганізацыя ў Дзянісках налічвае 22 члены і існуе ад 1945 года. Ад самага пачатку народнай улады займаецца яна ўсімі праблемамі сваёй вёскі. Вядома, заўсёды найбольш сельскагаспадарчых спраў. Сакратаром ПАРП з'яўляецца там кіраўнік школы Уладзімір Антанюк. Палікарп Міранюк і Мікалай Анішчук з'яўляюцца членамі экзекутывы. Сярод членаў экзекутывы падзелена праца так, што сельскагаспадарчай праблематыкай займаецца Палікарп Міранюк, праблематыкай моладзі — Мікалай Анішчук, а партвучобай — Уладзімір Антанюк.

А калі разыходзіцца аб партвучобу, дык яна ўжо ў гэтым навучальным годзе закончылася ў маі. Адбыліся заняткі на 9 тэм з асноў палітычных ведаў.

С. С.

## КУЛЬТУРНЫЯ СПРАВЫ

Крывяцікая святліца з'яўляецца добрым месцам, дзе могуць правесці вольны час жыхары тутэйшага сяла. Ёсць клуб-кавярня, бібліятэка, тэлевізар і г.д. Сяляне хацелі б, каб кіно, якое існуе ў Орлі, хоць раз у тыдзень наведала нашу вёску. Святліца з'яўляецца добрым месцам для паказу фільмаў. Ахвотных гледачоў напэўна не забракла б.

**В. Кірызюк**

бальніцы адвёў адну з лепшых палат. І пакуль там, у кабінеце, адбывалася ўрачыстае знаёмства, пані Зубарава, стоячы каля акна, у думках перабірала: каторая? Каторая з жанчын, якія толькі што прайшлі паўз акно, стане чарговай палюбоўніцай яе мужа? Тая, з каштанавыміваласамі і зялёнымі вачыма? Ці гэтая, з чорнай касой? Ці тая — высокая бландзінка з ганарыстым тварам, што не прайшла, а праплыла ля акна? Каторая?

— Запалі свечку!

Зубараў нечакана з'явіўся за спіной жонкі, і па яго́ным голасе яна пазнала: муж у тым радасна-ўзбуджаным настроі, пасля якога звычайна пачыналася «прадстаўленне». Ён быў рамантык і, як усе пяцідзесяцігадовыя рамантыкі, вельмі любіў сентыментальныя сцэны.

— Запалі свечку... ля іконы.

Вось, вось, пачынаецца!

— Давай памолімся, падзякуем госпаду за сённяшні дзень!

Дзякуй табе, божа! І даруй яму, божа... Дзякуй за тое, што збылася яго даўняя мара: нарэшце стаў ён гаспадаром бальніцы. Даруй яму, божа, што доўгія гады, каб наблізіць гэты дзень, ён служыў усім, каму даводзілася, гандляваў сваімі ідэаламі і... некаторымі звесткамі; што вербаваў — спачатку для латвійскай буржуазнай улады, потым для германскай разведкі — дзяцей белаэмігрантаў, каб засылаць шпіёнаў у Расію; што даслужыўся да значка са свастыкай, хоць некаторых поглядаў фашысцкай партыі не падзяляў.

Сёння — дзень яго трыумфу, дзень радасці. Яны прыйдуць, прыйдуць усе: прафесар Клумаў, Вітохін, Маркаў і гэты малады, высокі хударлявы ўрач з жывымі вясёлымі вачыма, і тая зграбненькая жанчына з чорнымі косамі, і гэтая ганарыстая бландзінка... Будуць сядзець тут, за гэтым сталом, і ўзнімаць бакалы, за яго, Барыса Барысавіча Зубарава, і за шматпакутны яго лёс. Нічога, што тут жа будуць сядзець яшчэ некалькі немцаў — сёння яны гаспадары. Але можа настане час... Эмігранты створаць свой урад, і тады.

У марах Зубараў заляцеў так далёка і так высока, што ўбачыў сябе спачатку міністрам новага рускага ўрада, потым... Не, не, так высока не трэба! Урэшце, ён ужо немалады чалавек, яму хочацца цішыні і спакою. Цішыні і спакою тут, на радзіме. Урэшце, ён урач і павінен лячыць людзей, гэтых няшчасных сваіх суайчыннікаў, якіх бог пакараў за ўсе іх грахі, і якія будуць цалаваць яму руку і класці ў яе грошы.

Але штосьці не надта спяшаюцца госці. А-а, нарэшце!

— Хайль Гітлер, гер Зубараў!

Знаёмы афіцэр з гестапа. Гэтыя не затрымаюцца!

— Хайль! Прашу, праходзьце.

Яшчэ нехта. Прашалясцеў шоўк сукенкі. Так і ёсць, пані Белікава. Мінула гадзіна, другая. Дзверы расчыніліся яшчэ толькі адзін раз, і ў пакой ўвайшла, а сапраўды прыплыла тая самая бландзінка, якую паспелі ўжо заўважыць і муж і жонка Зубаравы. Прадставілася:

— Урач-гінеколаг Ярашэвіч. — І яшчэ праз хвіліну кінула абыякава: — Можаце не чакаць, пан Зубараў. Больш ніхто не прыйдзе. Я іх ведаю.

**(Працяг за тыдзень)**

## ЛЮБІЦЬ КОНІ



Вучань V-га класа Юрка Трусевіч з Новага Ляўкова любіць коні. Ён часта выводзіць каня на панадворак і захапляецца яго стройнасцю. Бацька Юркі, Васіль Трусевіч, з'яўляецца добрым конегадоўцам.

Тэкст і фота Янцал
Гайнаўка

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Historia współczesna" (polski), 1—2.VII. „Język zwierząt" (radz.), 3—4.VII. „Szesnasta wiosna" (radz.), 5—6.VII.

**Нараўка**

„Wieczny kalendarz" (hiszpański), 2—6.VII.

**Нарва**

„Ucieczka w milczenie" (NRD), 2—6.VII.

**Чыжы**

„Ostatni po Bogu" (polski), 2—6.VII.

**Дубічы Царкоўныя**

„Hrabina Cosel" (polski), 2—6.VII.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Zosia" (radz.), 2—6.VII.

**Орля**

„Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 2—6.VII.

**Райск**

„Szyfry" (polski), 2—6.VII.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Manewry — Dniepr" (radz.), „Siedem razy kobieta" (włoski), 1—4.VII.

**Міхалова**

„Awantura o Basię" (polski), 1—2.VII. „Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), 3—4.VII. „Każdemu swoje" (włoski), 5—6.VII.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Wspaniałe wakacje" (jugosł.), 2—6.VII.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Paryż — Warszawa bez wizy" (polski), 5—6.VII.

**Ліпск**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), 5—6.VII.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6892



 

# Вясковая пошта

Пачнём з тых даўніх часоў, калі ў вёсцы аб радыё і не чулі, а друкаванае слова даходзіла сюды не часцей, чым зараз у магазіны штаны вялікага памеру. Вось тады менавіта і з'явілася так званая вясковая пошта. Дзейнічаць яна пачала не горш за цяперашняе раённае радыёвяшчанне. У вёсцы было вядома: і што дзед Яўхім заляцаўся да трыццацігадовае цёткі Агаты, і што Сымон Грушэц прыдбаў недзе металічную саху і адкормлівае сваю кабылу, бо баіцца, што не падужае яна такі груз цягаць. Назат надвор'е і тое прадказвалі. Выйдзе, бывае, восеньскай ноччу цётка Паўліна на двор, гляне на неба, а з яго зоркі так і сыплюцца на зямлю, так і сыплюцца. «Сыпне нечым хутка, сыпне...» — вырашае цётка, і назаўтра ўся вёска ўжо ведае — праз дзень, другі або дождж, або снег сыпацца будзе.

Вось так і жыла вясковая пошта. І зараз жыве. Хаця і радыё ў кожным доме ёсць, і газеты ідуць кожны дзень. Праўда, цяпер яна крыху звузіла сваю дзейнасць. Людзі найчасцей пасміхаюцца, слухаючы «апошнія навіны» ў перадачы мясцовых фантазёраў і фантазёрак. Чаму ж не паслухаць чаргозы анегдот?

Вунь нядаўна дзядзька Мікола выйграў па латарэі халадзільнік, дык цётка Анюта гаварыла, што ён нейкія знакі ведае на білетах, бо сама бачыла, як ён на святло глядзеў, калі купляў.

Або пайшла чутка — вёску нашу будуць зносіць, што нейкія карысныя выкапні пад ёй у зямлі залягаюць. Дык бабка Кацярына казала, што кожную ноч чуе, як нешта варочаецца ў зямлі, няйнакш, як тыя выкапні на паверхню вылезці хочуць. А цётка Ларыса ад некага пачула, што недзе чырвоны снег выпаў, дык на другі дзень цэнтнер солі ў магазіне купіла, бо паверыла, што вайна хутка будзе. Ды і яшчэ шмат прыкладаў можна прывесці, але я баюся — пойдзе чутка, што я шмат ведаю і хачу падлізацца да членаў нашай вясковай «пошты», каб яны прынялі мяне ў свае рады.

**Віктар Лоўгач**



Добрая прыкмета






**Я ж прасіў для рамонту коміна запрасіць слесара!**

### ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ

— Я самы прынцыповы на свеце, — гудзеў тэлефонны слуп. — Ужо колькі гадоў стаю на адным месцы.

**П. Шыбут**

### ДАКЛАДНЫ АДКАЗ

— Як ты думаеш, чаму рыбы нямыя?

— А ты мог бы хоць слова сказаць, каб цябе засунулі з галавой у вядро?

### НЕ КОРМЯЦЬ І НАЧАВАЦЬ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЬ

У рэстаране наведвальнік вось ужо цэлую гадзіну чакае заказаную вячэру.

— Можа мне пачакаць да раніцы?! — не вытрымлівае, нарэшце, ён.

— Ні ў якім разе, — адказвае афіцыянт. — Мы зачыняем у дванаццаць.

### ПРАПАЖА

— Я забыў у трамваі бутэльку каньяку, ці не прыносілі вам яе ў міліцыю?

— Бутэльку не, але чалавека, які яе знайшоў, прынеслі.

### У АПТЭЦЫ

— У мяне не хапае дробязі, каб даць вам рэшту. Можа вазьміце мазь ад вяснушак?

— У мяне няма вяснушак.

— Дык яна ўсё адно не дапамагае.

### ДЗІЎНАЯ ХВАРОБА

Доктар да пацыента: — Ну, якая ў вас хвароба?

— Дзіўная, доктар, нічога не баліць.

### КРЫХУ ЛОЎКАСЦІ

Андрэй задумаў пажартаваць з суседа Нупрэя з яго жонкаю. Восьмага сакавіка зайшоў на работу да Нупрэя і кажа: «Твая жонка панесла дамоў поўны кошык пачастункаў і віна, мусіць, думае зрабіць сямейны вечар. Трэба і табе падумаць пра падарунак».

Зайшоўшы да Нупрэевай жонкі, сказаў: «Я іду з крамы і бачу, як твой Нупрэй купляў прыгожы падарунак для цябе. Глядзі, каб і ты ў даўгу не асталася!»

Вечарам за сталом у Нупрэя Андрэй распіваў міравую.

### Талавапомка

Выкарыстоўваючы дзесяць лічбаў ад нуля да дзевяці, кожную па адным разе, складзіце лікі, можна і дробавыя (уламкавыя), сума якіх раўнялася б 100.

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара: Вось так трэба прайсці па садзе.**



### З АФГАНСКАГА

Аднойчы чалавек падумаў: «І зямлю і неба — усё Бог стварыў для мяне. Значыць, Бог стварыў мяне самым вялікім з усіх істот».

Але тут прыляцеў камар, сеў чалавеку на нос і запішчэў:

— Не ганарыся тым, што Бог стварыў зямлю і неба для цябе. Бо самаго ж цябе ён стварыў для мяне. Дык хто ж з нас больш вялікі?

### ДЗЕ ХАДЗІЛІ?

— Дзе ты позна
Так хадзіла,
Маладзіца,
Дзе ты позна
Так гуляла,
Галубіца?
— Я хадзіла
На хвіліну,
На хвіліну
На чырвоную,
Чырвоную
Маліну.
— А дзе ты
Бадзяўся позна,
Мой міленькі,
І дадому
Не з'яўляўся,
Даражэнькі?
— Я хадзіў
Зусім жа недалёка:
Лавіць рыбку,
Вудзіць рыбку
На затоку.
— А чаго сваю
Мне рыбку
Не даеш ты?
— Ды пазычыла
Суседка
Усю дарэшты.
— Ну, а дзе
Твая маліна? —
Паспытаю.
— Скаштаваў
Сусед мой добры,
Што пытаеш?!
Калі так,
Ды калі гэтак,
Іншым часам
Па маліну,
На рыбалку
Пойдзем разам.

**А. Дзеружынскі**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі Міранчук з Гарадка, Беластоцкага павета, Ліды Пракапюк з Бельшчыны, Юркі З. з Чаромухі, Сярожы Грыгарука з Курашава, Гайнаўскага павета, Бэаты і Эвы Пасюк з Гознай, Беластоцкага павета, Ніны Марчук і Віктара Харытанюка з Цялушак, Бельскага павета, змяшчаем песню п.з.

## „NIEBIESKOOKA“

Przyjdę do Ciebie niebieskooka,
Przyjdę do Ciebie gdy będzie świt.
Żeby cię upić błękitem chabrów,
Żeby zrozumieć błękitne sny.

Bo moje oczy są granatowe,
Bo w moich oczach jest jeszcze cień.
Które mi ojciec kiedyś zostawił,
Gdy rozstrzelany był każdy dzień.

Przyjdę do Ciebie niebieskooka,
Przyjdę do Ciebie w rozkwicie dnia.
Żeby popatrzeć w zwierciadło nieba,
Żeby dosięgnąć błękitu dnia.

Bo moje oczy są granatowe itd.

Przyjdę do Ciebie niebieskooka,
Przyjdę do Ciebie w pogodny czas.
Żeby zrozumieć, że tam wysoko
Może być miliard zwyczajnych gwiazd.

Bo moje... itd.

### АБ'ЯВА

«Маладая жанчына — новы будынак, цэнтральнае ацяпленне, падсобныя памяшканні, чарнавокая, калі трэба — рудая, узрост 35 год, а калі трэба — 28, шукае прыстойнага жаніха».







**Падайце, калі ласка!**

Гэты здымак зроблены ў адным з італьянскіх заапаркаў каля клеткі з малпамі.



**I чым яна ім перашкодзіла?**

Паліцыя амерыканскага горада Сен-Луіс у поўным саставе кінута на пошукі банды, якая арганізавала начное нападзенне на мясцовы банк. Падзея зусім радавая па цяперашняму амерыканскаму часу, калі б не адна забаўная акалічнасць. Гарадская паліцыя ўзнята на ногі не з-за ўкрадзенай сумы (усяго толькі 75 долараў), а з-за таго, што банда здолела вывесці са строю дарагую тэлевізійна-электронна-сігнальную сістэму, якая ўстаноўлена спецыяльна для засцярогі ад злодзеяў. Так што цяпер дзверы астатніх банкаў для банды шырока адчынены.




**Калі прамоўца пачынаў: «У мяне няма слоў, каб выказаць...», было вядома, што прамова будзе доўгай.**